# Балтызмы ў слоўнічку Васіля Стомы «Дыялект Дзісеншчыны»

ЗЬМІЦЕР САЎКА

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва

У архіве БІНІМу захоўваецца рукапісная спадчына Васіля Стомы[1], сярод якой – невялікі збор дыялектнай лексыкі мястэчка Лужкі былога Дзісьненскага павету (цяпер Шаркаўшчынскі раён Віцебскае вобласьці). Праца складаецца з 24 старонак машынапіснага тэксту, у яе ўключана каля 680 адзінак. У гэтым артыкуле аналізуецца найбольш, як нам здаецца, цікавая група лексыкі, зафіксаванай у слоўнічку, – балтызмы.

У камэнтарах да лексэмаў мы скарысталі найперш абагульняльныя працы, што выйшлі ў СССР (ПЗБ, СБ, ЭСБМ[2] ), а таксама два найбольш грунтоўныя лексыкаграфічныя выданьні, створаныя на эміграцыі: Станк і KSL. Асобая ўвага да матэрыялу слоўнікаў, выдадзеных дыяспарай, тлумачыцца тым, што першы зь іх (Станк) ня быў улічаны ў згаданых вышэй працах, да таго ж ён таксама характарызуецца высокай ступеньню абагульненьня. Другі слоўнік (KSL), хоць і быў рэпрэзэнтаваны ў ЭСБМ, займае там пэрыфэрыйнае становішча. У нашым жа выпадку ён зьяўляецца асабліва каштоўнаю крыніцай, бо сабраны ў ім матэрыял – арэальна блізкі да аналізаванага намі лексыкаграфічнага збору.

---

[1] Васіль Стома (псэўданім Сініца) [4 сакавіка 1911 – 31 траўня 1992] – дзеяч беларускага замежжа, журналіст (падрабязьней гл.: Сьв. пам. Васіль Стома: [нэкралёг] // Беларус (Нью Ёрк). №392. 1992. Ліпень–жнівень; Зьм. Саўка, Л. Юрэвіч. Кульгавы хлопчык з гарэзнымі вачыма // Полымя. 1998. №9. С. 179–181.). Летась у часапісе «Полымя» быў апублікаваны мэмуарны твор В. Стомы-Сініцы, машынапіс якога таксама захоўваецца ў архіве БІНІМу, – «Маё мястэчка» (1998. №9–12).

[2] Расшыфроўку скаротаў гл. ніжэй.

## Прынятыя скароты

| | |
|---|---|
| **БР-26** | М. Байкоў, С. Некрашэвіч. Беларуска-расійскі слоўнік. Мн., 1926. |
| **ЛАБНГ-1** | Лексічны атлас беларускай мовы. У 5 т. Т. 1: Раслінны і жывёльны свет. Мн., 1993. |
| **Нас** | И. Носовичъ. Словарь бѣлорусскаго нарѣчія. СПб., 1870. |
| **НС** | Народнае слова. Мн., 1976. |
| **ПЗБ** | Слоўнік беларускіх гаворак паўночна-заходняй Беларусі і яе пагранічча. У 5 т. Мн., 1979–1986. |
| **СБ** | Ю. А. Лаучюте. Словарь балтизмов в славянских языках. Ленинград, 1982. |
| **Станк** | Др. Янка Станкевіч. Беларуска(вялікалітоўска)-расійскі слоўнік. NY., [1990]. |
| **Сцяцко** | П. Сцяцко. Дыялектны слоўнік (з гаворак Зэльвеншчыны). Мн., 1970. |
| **ТС** | Тураўскі слоўнік. У 5 т. Мн., 1982–1987. |
| **ТСБМ** | Тлумачальны слоўнік беларускай мовы. У 5 т. 6 кн. Мн., 1977–1986. |
| **Фасм** | М. Фасмер. Этимологический словарь русского языка. В 4 т. 2 изд. Москва, 1986–1987. |
| **ЭСБМ** | Этымалагічны слоўнік беларускай мовы. Мн., 1978–. |
| **Юрч-66** | Г. Ф. Юрчанка. Дыялектны слоўнік (з гаворак Мсціслаўшчыны). Мн., 1966. |
| **Янк-II** | Ф. Янкоўскі. Дыялектны слоўнік. II. Мн., 1960. |
| **Glinka** | Stanisław Glinka. Lituanizmy fonetyczne w gwarach białoruskich i polskich Białostocczyzny // Bałto-słowiańskie związki językowe. Wrocław etc., 1989. S. 117–126. |
| **KSL** | Adam Varłyha. Krajovy słoūnik Łahojščyny. NY., 1970. |
| **PV** | J. Petrauskas, A. Vidugiris. Lazūnų tarmės žodynas. Vilnius, 1985. (Слоўнік летувіскай гаворкі Івейскага раёну Гарадзенскае вобласьці) |

**АЖЫРГА́ЦЬ** ***пераступаць***, **АЖЫРГНУ́ЦЬ** ***пераскочыць*** (закрэсьлена й выпраўлена на ***пераступіць***)[3]. KSL: **ažyrgnuć** 'pierastupić praz niešta', **ad'žyrgnuć** '[pierastupić nazad]', *параўн.* летув. **apžer̃gti** 'ахопліваць/ахапіць нагамі, сядзець/сесьці вершкі', **žìrgčioti** 'крочыць вялікімі крокамі, шыбаваць', **žìrgės** 'лыгі (пра ногі)', **žìrgas** 'конь', латыск. **zirgs** 'тс'. Гл. таксама ПЗБ: ажарґаць, абжэрґаць, СБ: жэргаць, ЭСБМ: ажыргаць.

**АЗЯРОД** ***прыстасаваньне з слупоў і жэрдак для дасушваньня збажыны, травы і пад[обнага]; пярэплат***, **ЎЗЯРЭ́ДЖВАЦЬ**[4] ***пасадзіць ў азярод (пярэплаты)***. KSL: **aziarody** 'pabudova dla sušeńnia zbožža', **aziaredzić** 'падаваць на азяроды збажыну, а там замацоўваць' *параўн.* летув. **žárdas**, латыск. **zards**, прус. **sardis** (верагодна, [zardis]) 'тс', летув. **žardãkartė** 'жардзіна, азярэдзіна (жэрдка ў азяродзе)', **žárdyti** 'класьці ў азярод', **žárdiena**, **žar̃dis** 'абгароджанае месца для цялят, жарабят; загон'. Улічваючы сьвісьцячы характар пачатнага гука, можна дапусьціць заходнябалцкую крыніцу запазычаньня. Гл. таксама СБ, ЭСБМ.

**АПІРУДАВАЦЬ** ***піраваць, есьці са смакам***. Верагодна, кантамінант: балцк. *api- 'аб-, вакол' і слав. *orędovati. Ва ўсталяваньні сэмантыкі магла адыграць ролю народная этымалёгія.

**АПУНДЫ́РЫЦЦА** ***(вульг.) памерці ад яды, інакш[:] зьеўшы зашмат***. *Параўн.* летув. **puñtaroti** 'прагна, пахопліва есьці; жэрці'. KSL: **apundyryć** 'raźdźmuć, stać toūstym'. Ёсьць падставы пабачыць блізкасьць з **апрындзіцца** 'здохнуць', **апрудзіцца** 'цяжка захварэць, акалець', **апруда₁** 'гультай, абжора', **апруда₂** 'сьмерць', якія А. Супрун у ЭСБМ параўноўвае з летув. **aprū̃dýti** 'ржавець', **aprìmti** 'супакоіцца', латыск. **aprèmdêt**, **aprèmdinat**, **aprindinât** 'супакоіць, ахаладзіць'. У ПЗБ: **пунда** 'невялікая рыбіна' [...] *Пунды* – [...] *грубенькія* [...] *рыбкі* [...]. *Параўн.* летув. **puñdis** 'джгір'.

---

[3] Пасьля тытульнага слова падаецца дэфініцыя аўтара слоўніка тлустым курсівам.

[4] Усюды захаваная артаграфія й пунктуацыя ісьніка. В. Стома ў дачыненьні да ***ў*** стасуе прынцып, сфармуляваны Вацлавам Ластоўскім: ***ў*** падаецца на месцы этымалягічнага ***в***.

**АРУД** ***засек, загародка ў сьвірне на збожжа.*** *Параўн.* летув. **arúodas** 'тс', аднак латыск. **arods** [aruots] 'рамяство, сталы занятак'. Гл. таксама СБ, ЭСБМ.

**АСВА** *мн. лік* ***восвы рас[ейск]. або польск. оса.*** Станк [65]: 'тс', KSL: **asva** 'кусьлівая казурка'. Балта-славянскі кантамінант (летув. **vapsvà** 'тс' + аса). Гл. таксама СБ: восапа.

**А́ЦЮ** ***зробленае за дзякуй.*** Станк [72, 73]: **áцець, áціць** 'благодарить', **áці, áцькі** *дет.* 'спасибо', áця *дет.* 'благодарность', *параўн.* летув. **ãčiū** 'дзякуй', **ačiúoti** 'дзякаваць'. Лексэма мае вялікую колькасьць дэрыватаў і дастаткова шырокую геаграфію ў беларускіх гаворках. Цяжка згадзіцца зь меркаваньнем Э. Фрэнкеля, які бачыў у летувіскай мове запазычаньне зь беларускай [ЭСБМ: аці] з прычыны фанэтычнае неадпаведнасьці. Рэч у тым, што беларускія формы з [ц'] – рэгулярны дзукійскі рэфлекс летув. [č']: ãciū [PV, 17]. Калі дапусьціць слушнасьць думкі Фрэнкеля, то на месцы беларускага [ц'] трэба было б чакаць у летувіскай не [č'], а [t']: atiu. Ю. Лаўчутэ ж парэчыць Э. Фрэнкелю з геаграфічных меркаваньняў [СБ]. Г. Цыхун бачыць тут «спецыфічнае ўтварэнне дзіцячай мовы, паходжанне якога, як і іншых т.зв. дзіцячых слоў, застаецца няясным» [ЭСБМ].

**АЦЯЛЯГАВАЦЦА** ***рабіць штосьці вельмі памалу,*** **АЦЯЛЯКАВАЦЦА** ***марудзіць.*** Станк [73]: ацялягавацца 'мешкать, медлить', KSL: acilahavacca 'marudzić pry pracy', *параўн.* летув. **atsilìkti** 'адставаць/адстаць, адбівацца/адбіцца (ад грамады)'. Гл. таксама ЭСБМ: аціляkавацца.

**БАДЗЯЦЦА–ЗАБАДЗЯЦЬ** ***бэсьціцца, забрудзіцца паваліўшыся на зямлю,*** **БАСЬЦЯЦЦА** ***(арх) бадзяцца бяз выразнай мэты або карысьці,*** **БАСЬЦЯЛЫ** ***тыя, што басьцяюцца.*** Станк [87]: **бадзяцца, басьцяцца** 'тс', **бадзяць** 'таскать, бросать, крайне небрежно относиться', **басты́сь** 'шляющийся, здоровый, но ни к чему неспособный парень', KSL: **baściáka** 'amaralny čałaviek, što pa śviecie baściajecca', *параўн.* летув. **bastýtis** 'тс', PV: **badžiótis** (фактычна: **badziócis**) 'тс'. Гл. таксама ПЗБ: басцяка, басцяла, басцялы; СБ: бадзяцца, басцяцца; ЭСБМ: басцяцца.

**БАСЛАЙ** *(арх) непакорны. Параўн.* летув. **basly˜s** 'кол'. Аднак можна бачыць агульнасьць з расейск. валагодск. **басала́й** 'грубиян, нахал', у У. Даля – 'щеголь'. (?)[5]

**БОЎТКА** *паўдурак, рыбацкая прылада для загону рыбы ў бродзень.* Станк [80]: **боўт, боўтала, боўтка, боўцік, боўціла** '[розныя кшталты рыбацкай прылады]', KSL: **boūt** 'rybackaja pryłada boūtać vadu', *параўн.* летув. **beldìmas** 'стук, стукат', **bélteléti** 'стукаць', **bélsti, -džia, -dė** 'тс', **bélstis, -džiasi, -dėsi** 'стукацца; дурэць, гарэзнічаць', **bildė´ti** 'стукаць, грымаць, шумець'. Паводле ЭСБМ, *боўтаць* «лічыцца гукапераймальным словам». Аднак сынанімія лексэмы (**паўдурак**) сэмантычна збліжае яе з 'дурэць' (**bélstis**), што схіляе нас бачыць тут прынамся сэмантычны балтызм.

**БРАЖДЖЭЦЬ** *бразгаць, званіць*, **БРАЗГУН** *самаробны званок для жывёлы*, **БРАЗГУНЫ** *гатунак яблыкаў, а таксама гарэхаў*. Станк [143, 144]: **бражджолка, бразгаўка, бразготка, бразгалка** 'побрякушка', **бражджоўніца** 'гремучая змея', **бражджатлі́вы** 'бренчащий, дребезжащий', **бражджэць, бражчэць** 'дребезжать', **бразголіць, бразгатаць, бразгацець, бразгаць, бразкаць** і г. д. 'тс', KSL: **brázgać, brazgatáć** 'bić zialeza ab zialeza', **braždžéć** 'hłuchoje brazgańnie'; *параўн.* летув. **brazdė´ti** 'бразгаць, ляскаць; шкрабаць, шкрабацца', **brazdénti** 'пастукваць; пашкрабваць', **brazdínti/brazgínti** 'бразгаць', **brazgė´ti** 'трашчаць, храбусьцець; бразгаць, ляскаць', PV: **brė´zgoti** (фактычна: **brė´zgoc**) 'тс'. У ЭСБМ мы бачым супярэчнасьць: для лексэмы *бразгаць* прызнаецца толькі «супольны» – балта-славянскі – статус лексэмы, у той час як для несумненна аднакаранёвага *бразгуль* 'драўляны гузік' прызнаецца балцкае паходжаньне. Асабліва пераканаўча сьведчыць на карысьць балцкага паходжаньня кораня фанэтычная дуплетнасьць у балцкім (**d–g**) і беларускім (**дж–ґ**: бражджэць–бразґаць). Гл. таксама Фасм [I, 225].

**БУЛЬБЕЎНІК** [нароўні з **бульбоўнік**] *націньне ад бульбы*. Станк [159]: **бульбенішча** 'тс', KSL: **bulbieńnik** 'bulboūnik', ЛАБНГ-1 [карта №223]: **бульбенішча** 'бульбянішча' (у тым ліку, пункт 28: в. Беразіно Докшыцкага раёну Віцебскае вобласьці – за 50 км ад

---

[5] Знак (?) абазначае ненадзейнасьць прапанаванае этымалёгіі.

м. Лужкі); *параўн.* летув. **bulvienójas** 'бульбяная націна', **bulvíena** 'бульбянішча', PV: **bulbienà** 'тс'. Той жа словаўтваральны тып у словах **kopūstíena** 'гарод/поле па капусьце', **morkíena** 'гарод/поле па моркве', **rugíena** 'іржышча' і да т. п. Такім чынам, форма з **-е-** – вынік фанэтычнай балта-славянскай кантамінацыі.

**ВАРАЦА́ЦЬ** ***(мэд.) (рас[ейск].) рвота***. Станк [1193]: 'тс', **варацáкі** 'блевота', KSL: **varacać** 'kazły drać, vanitavać', **varacaki** 'vyvaracanaja nazad byłaja ježa'; *параўн.* летув. **ver˜sti** 'ванітаваць; перавярняць; валіць; куляць'. У ЭСБМ: нароўні з **варцаць** 'тс'. Абедзьве беларускія формы з чаргаваньнем поўнагалосьсе/няпоўнагалосьсе – кантамінацыйнай прыроды: **вара*ц*іць** (ц'= =т+с') + **ver˜*st*i** [v'ær˜*s't'*i] 'ванітаваць' пры мэтатэзе **s't'>t's'>c'**, а ў іншых формах (**verčia, verčė**) узаемаператлік **c'/č'** не выклікае складанасці (ПЗБ: ***ц*ілта** 'кісель, аўсяная каша' – ***č*ilčie˜nė** 'бульбяная каша', ***ц*інцель** 'камяк кашы і інш., сціснуты рукой', ***č*ilčie˜lius** 'тс'), тым больш што ў дзукійскіх гаворках беларуска-летувіскага моўнага памежжа на месцы летувіскага літаратурнага **č'** – дзукійскае **c'** (**verčia–vercia**) [PV, 285], тоеснае беларускаму. Падлягае тлумачэньню й мена **va-–v'æ-** (да прыкладу, ***вартыver˜tas*** 'тс'). Зрэшты, сваю ролю магла адыграць і генэтычная тоеснасьць **вараціць/вяртаць/вярнуць** і **versti**. Да таго ж гутарк. **вярнуць** 'цягнуць на ваніты' (*Мяне аж верне*); *параўн.* расейск. **воротить** 'тс'.

**ВУ́РЗГАЦЬ** ***вурчэць***, **ЗАВУРЗГАЦЦА** ***вурчэць***. *Параўн.* летув. **ur˜gzti, ùrgztelėti, ur˜kšti, burzgė́ti** 'тс', **urgzlùs** 'бурклівы'. Гл. таксама СБ.

**ГІГЕЛЬ** ***(бат.) гугаль***. *Параўн.* летув. **gegė˜lis, gigė˜lis, gige˜lis** 'тс'. У гэтай пары першая лексэма добра вядомая, з багатай літаратурай [ПЗБ, СБ, ЭСБМ]. Аднак большую цікавасьць выклікае другое слова – дэфініцыя. Не падлягае сумненьню, што гэтая пара супрацьпастаўленая выключна фанэтычна. Такім чынам, можна разгледзець тры варыянты вырашэньня: а) форма **гугаль** – кантамінант *гігель+кукаль* (гэтая гіпотэза знайшла шырокую падтрымку); б) форма **гугаль** – кантамінант *гігель+гуга* 'агульная назва для прадмета сфэрычнай формы', што падмацоўваецца адным са значэньняў лексэмы: 'шышачка гігеля'; в) зыходзячы з таго, што

**гугаль** мае варыянт **гугуль**, Ю. Лаўчутэ дапускае паходжаньне гэтае лексэмы з **gùgulas** 'ком, клубок' [СБ].

**ГІЛЯВАЦЬ** ***гізавацъ***. KSL: 'zygavać'; *параўн.* летув. **gyliúoti** 'тс', **gyliavà** 'гіз, гізаванне', **gyly˜s** 'джала; авадзень'. Гл. таксама ПЗБ, СБ, ЭСБМ.

**ГІРОС** ***(бат.) зёлкі вельмі кіслага смаку***. *Параўн.* летув. **girà** 'квас'. Верагодна, запазычваньне адбылося ў форме множнага ліку, што характэрна для рэчыўных. Што ж да захаваньня канчатка, то такія выпадкі зафіксаваныя, найчасьцей у зоне беспасярэдняга балцка-беларускага кантактаваньня: **біздрыс**, **ванагас**, **вейкаліс**, **дубас**, **квятліс**, **пужліс**, **пукас**, **рудзімас**; у тым ліку ў форме мн. л.: **ванчас**. Прапанаванае А. Непакупным тлумачэнне (ад жамойцк. **girõsas** 'піўная барылка; квас' – паводле СБ) здаецца сумненным з прычыны геаграфіі. Аднак мы не адмаўляемся ад гіпатэтычнае магчымасьці такога тлумачэньня.

**ГІРСА** ***(бат.) пустазельле ў жыце***. KSL: 'тс', Станк [253]: ґірса 'костер мягкий'; *параўн.* летув. **dìrsė**, дыял. **gìrsa** (у тым ліку PV), **gìrsė**, латыск. **dzirši** 'тс'. Гл. таксама СБ, ЭСБМ.

**ДЫЛДА** ***аболтус, балдзень***. *Параўн.* летув. **dìlda** 'неўваротны (пра чалавека); напільнік', латыск. **dilda** 'неўваротны'. Гл. падрабязна СБ, а таксама Фасм, ЭСБМ.

**КАЛБЭ´ЦІЦЬ** ***муціць, напр[ыклад] муціць ваду***. *Параўн.* летув. **kalbė´ti** 'гаварыць', **kalbė´tis** 'гутарыць, размаўляць, перамаўляцца'. У ЭСБМ (гл. *калбатаць*) памылкова цьвердзіцца, што «слова прадстаўлена толькі на захадзе Гродзенскай вобласці», супраць чаго сьведчыць прынамся дадзеная фіксацыя. (?)

**КАЛЯ´НЫ** ***цьвярды, пругкі***. Станк [529, 530]: 'твердый (не каменный, не металлический), прямостоящий предмет [...], твердоупругий', **каля´нець** 'становиться твердым, жестким; коченеть, твердеть', **каля´ніць** 'доводить до твердости, закаливать', KSL: 'ćviardy, niahnutki'; *параўн.* летув. **kalenti** 'шчоўкаць, ляскаць; стукаць, дзяўбсьці; клекатаць'. Верагодна, разьвіцьцё сэмантыкі адбылося мэтанімічным шляхам: «дзеяньне, зьвязанае з узьнікненьнем гуку» – «прадмет, на які неабходна пэўным чынам узьдзейнічаць, каб выклікаць адпаведны гук».

**КАМЛЮКАВАТЫ** ***моцна збудаваны чалавек***. Лексэма мае балцкі суфікс **-'uk-** са значэннем дымінутыва: *параўн.* летув. **arkly˜s**

‘конь’ – **arkl-iùk-as** ‘конік’ [СБ, 107: дурнук, 109: жудюк, 134: циплюк]. Паводле гэтага ж тыпу з тоесным значэньнем: **камлюк** ‘тонкае паленца дроў’ [НС]; ‘похожий на “камель” (нижняя часть ствола у пня, толстый конец; нижняя часть снопа, куля и т. п.], приземистый, здоровый мужчина, женщина’ [Станк]; ‘pieršy cielaž [kavałak kruhłaha taūstoha dreva] ad pnia’ [KSL] (тут жа ёсць і kamlukavaty ‘niavysoki, prysiadzisty [pra čałavieka]).

**КЕШКАЦЦА** ***рабіць штосьці паволі, жыць у цеснаце***. Станк [557]: ‘копошиться; воротиться с чем-л.; делать что-л. слишком медленно’, **кешкала** ‘медленно работающий или медленно собирающийся в путь; медлительный, непроворный, копотливый’, KSL: **kieškacca** ‘varušycca, krucicca ū ciecnym miescy’; *параўн*. летув. **teškentis** ‘плёскацца, забаўляцца, пэцкацца ў лужыне’ [ПЗБ], латыск. **ķęskât** ‘прагна есьці; пэцкацца; марудзіць’, **ķęska** ‘неахайнік’ [СБ]. Фанэтыка слова, несумненна, балцкая, аднак сэмантычная раскіданасьць указвае на вытворнасьць большасьці значэньняў. Што ж да пытаньня адпаведнасьці пачатных **t-/d-** і **ķ-/ģ-** у летувіскай і латыскай адпаведна, то яно зьяўляецца заканамерным і рэалізуецца ў беларускіх гаворках: **дзірса–гірса** (гл. гірса).

**КІ´РПА** ***(вульг.) клічка для асобы, якая мае кароткі і задзёрты нос***. Станк [563]: **кірпáты** ‘курносый’; *параўн*. летув. **kir˜pti** ‘рэзаць, страгчы, рабіць кароткім’. Гл. таксама СБ, ЭСБМ.

**КРА´ТАЦЬ** ***рухаць***. Станк [578, 579]: ‘шевелить, трогать’, KSL: ‘chistać, varušyć na baki’; *параўн*. летув. **kratýti** ‘трэсьці, трусіць’. Гл. таксама СБ, ЭСБМ.

**КУМПЯ´К** ***інакш[:] шынка (польск.)***. KSL: **kunpiak** ‘ścihniak; śvinoje miasa’; *параўн*. летув. **kum˜pis** ‘тс’. Гл. таксама СБ, ЭСБМ.

**ЛА´ЙБА** ***вялікая лодка для перавозкі цяжараў***. Станк [614]: ‘баржа, большая ладья, барка’, KSL: ‘vialiki račny čovien’; *параўн*. летув. **lai˜vas, lai˜vė** ‘карабель’, латыск. **laiva** ‘лодка, човен’. Гл. таксама СБ, ЭСБМ.

**ЛАКТА´ЦЬ** ***(вульг.) піць***. Станк [614]: ‘локать, хлебать; пить, как бы лакая, говориться укоризненно’; *параўн*. летув. **làkti** ’лакаць’. Магчыма, балта-славянскі кантамінант.

**ЛІПЕ´ЦЬ** ***жыць у бядзе***. Станк [638]: ‘чуть держаться, еле жить, дышать’, KSL: ‘ledź trumacca’; *параўн*. летув. **leipė´ti** ‘млець,

страчваць прытомнасьць' (у ПЗБ: 'выжываць'), **lei˜pti** 'млець; станавіцца млявым'. У ЭСБМ падаецца іншы балцкі адпаведнік: **klibė´ti** 'хістацца'.

**ЛУ´ПЫ** *(вульг.) губы, вусны*, **ЛУПА´Ч** *чалавек з тоўстымі губамі*. Станк [647]: **лупаты** I 'с большими некрасивыми губами', **лупазвон** 'губошляп', KSL: **łupazvon** 'biaździejny, razińkavaty padletak', **łupiecha** 'źnieważlivaje słova na žančynu z taūstymi hubami'; *параўн.* летув. **lū´pa** 'губа', латыск. **lu˜pa** 'тс'. Гл. таксама ЭСБМ: лупа$_1$, лупы$_1$, СБ: лупа.

**ЛЯ´ПА** ***(вульг.) рот, або чалавек не задумваючыся штосьгаворачы***. Станк [632]: 'пасть (рот зверя, рыло); широкий рот, большой и некрасивый рот человека'. У ЭСБМ (ляпа$_1$) прыводзяцца летувіскія адпаведнікі **lepà**, **le˜pas** 'морда, зяпа'.

**МІЛТА** ***(летув.) талакно [страва з аўсянай мукі, спэцыяльна прыгатаванай]***. Станк [697]: 'тс', KSL: 'ciesta z muki paranaha aūsa'; *параўн.* летув. **mìltai** 'мука'. Як відаць з пазначэньня ***летув.***, аўтар усьведамляў балцкае паходжаньне слова. Гл. таксама СБ, ЭСБМ.

**НАВЭ´ЙЛА** *дурань*. *Параўн.* летув. **ne˜vala**, **nevéiva** 'неахайнік, неахайніца', **nevalývas**, **nevalùs** 'неахайны'. ПЗБ: нявала 'гультай'.

**ПІ´РГАЦЦА** *шургацца*, **ПІ´РГНУЦЬ** *штургануць*. KSL: **pirhnuć** 'raptam pichnuć', **pirhiel**! 'raptam pirhnuć', Янк-II [161]: **спіргнуць** (**сьпіргнуць**) 'тс (?)'. У ЭСБМ (т. 1, які выйшаў у 1978 г. – да выданьня СБ ў 1982 г.) **адпіргнуць** 'адштурхнуць' падаецца як кантамінант *перці+піхаць*, што ўяўляецца нам непераканаўчым, бо не тлумачыць узьнікненьня *г*. У СБ **успіргнуць** 'напірацьб накаліць' зьвязваецца з **užspìrginti** 'тс' < **spìrginti** 'падсмажваць, паддаваць жару'.

**ПЛЯВУ´ЗГАЦЬ** ***гаварыць няпраўду на кагосьці, або наагул лухту***. KSL: 'havaryć roznuju brydu'; *параўн.* летув. **pliáuza** 'болбатун', **pliau˜zaroti** 'балбатаць'. У ПЗБ: (яшчэ) блявузґаць.

**ПО´СКУДЗЬ** *брыда*. Станк [787]: 'тс', KSL: łajanka; *параўн.* летув. **paskau˜dinti** 'выклікаць боль' < **skaudùs** 'балючы; пакутлівы; хворы'. ЭСБМ следам за Фасмэрам лічыць прэфіксальным утварэньнем ад **скудны**, але ж сам Фасмэр сумняецца, прыводзячы балцкія паралелі, праўда, адрозныя ад нашых. Сумненьні ва ўтва-

рэньні з прэфіксам **по-** выклікае варыянт вакалізму (расейск. **паскудный**, польск. **paskudny**). Беларускае ж з *о* націскным магло развіцца як 1) славянскі адпаведнік балцкага *а* (боўш–baužas); 2) вынік аналёгіі, зьвязанай з аканьнем (дарыць–дораны). Ускосна сьведчыць пра "балцкасьць" лексэмы й чаргаванне **с||ш**, характэрнае для балтызмаў (**паскудзтва–пашкудзтва**, як **склют–шклют**).

**ПО´ШАР** ***корм для жывёлы***. Станк [788]: 'фураж'; *параўн.* летув. **pa˜šaras** 'тс'. Гл. таксама ПЗБ, СБ.

**ПРЫВЕН** ***ганак, вэранда***. Станк [938]: **прымен** 'сени'; *параўн.* летув. **priemenė˜** 'сені; вітальня', летув. дыял. **pryvenė˜** 'тс'. Гл. таксама ПЗБ, СБ.

**ПУЦГА´Н** ***пузаты*** *[-дзг-]. *Параўн.* зэльв. **ладзґан** 'пра малое, якое соваецца, лазіць куды не трэба' [Сцяцко]. Зважаючы на фанэтыку й геаграфію апошняга слова, Ю. Лаўчутэ бачыць у ім балтызм. Мы ж лічым абодва прыклады – кантамінантамі, пабудаванымі па адным словаўтваральным тыпе: **лазіць – ладзган**, **пузаты – пудзган**. Магчыма, на ўтварэньне апошняга паўплываў **пуцаты** 'мардаты', **пуцы** 'шчокі' [ПЗБ], тым больш, што існуе **пуздра** 'таўстун, таўстуха' [Юрч-66], да якога Ю. Лаўчутэ прыводзіць летув. **pū´zra** 'маленький, пузатый человек, ребенок; соня', **pūzdrà** 'кто надувшийся'; да таго ж у Станк [955]: **пуздэрак**, **пуздрэлак** 'флакон', **пуздро** 'мочевая мошна у лошади' (апошняе – са спасылкаю на Нас). Такім чынам, **-дз-** магло развіцца шляхам мэтатэзы з **-zd-**. Зрэшты, улічыўшы форму **пузган** (ПЗБ; побач з **пузан**), можна дапусціць узьнікненне **пудзган** < **пузган** < **пузан** праз разьвіцьцё ўстаўнога *ґ*, характэрнага для ўсходнябалцкіх дыялектаў.

**ПЯ´ЛЦА** ***(здробн.) прылада да нацягвання малых скурак пры сушцы***. Адсутнасьць мякасьці **л** – фанэтычны балтызм [Glinka].

**РА´ГІ** *зацёкі. Параўн.* летув. **regė´ti** 'бачыць' [СБ]. Прыведзеная этымалёгія ўяўляецца непераканаўчай. Аднак фанэтыка – наяўнасьць выбухнога **ґ** і дыялектнай формы [PV] зь цвёрдым **р**: rag(i) 'бачыць/бачаць' (3 ас. цяп. ч.) – і геаграфія (шырокая паласа беларуска-балцкага памежжа) схіляюць да тлумачэньня з балцкага.

**РАЎГЕ́НЯ** ***яшчэ няўкіслы жытні квас.*** Станк (997): ‘кулага’; *параўн.* летув. **raugienė̃** ‘жытні квас; саладуха’, **raugìnti** ‘квасіць, саліць; дубіць’. Гл. таксама ПЗБ, СБ.

**РЫ́ЛЦА** ***шыйка ў малой пляшцы.*** Фанэтычны балтызм (гл. *пялца*).

**РЫ́НДА** ***нядбалы.*** Станк [1010]: ‘неряха; лень, беспечность, неряшество’; *параўн.* летув. **rindà** ‘неўваротны (пра чалавека)’. У ПЗБ (**рында** ‘хто неахайны’) прыводзіцца таксама параўнанне зь нямец. **Rind** ‘бык, вол’.

**СКА́БЫ** ***рэбры.*** Станк [1037, 1038]: **скаба**, **скабіна**, **скабка**, **скабачка** ‘ребро; заноза; клин’, **скабы** ‘ребра, реберная часть туши’, **скабіць** ‘занозить’, KSL: **skába**, **skábina** ‘kryvyja kostki, što złučajuć chrybt z hrudnoj kostkaj’; *параўн.* летув. **skobà** ‘рабрына’. Гл. таксама СБ.

**СКАПЫ́РДЗІЦЦА** ***(вульг.) памерці.*** У ПЗБ **скапэра’тісэ** ‘тс’; *параўн.* летув. **nusikaparóti** ‘тс’. Верагодна, балта-славянскі кантамінант на аснове *скапыціцца* ‘тс’ [БР-26, Станк [540], ТС: скопуціцца, KSL ды інш.].

**ТАЛАКА́–ТАЛАКО́Й** ***рабіць штосьці супольнымі сіламі.*** Станк [1148]: ‘тс; участники “*талакі*”’, KSL: ‘hramadzkaja dapamoha adnamu čałavieku niešta pieravozić’; *параўн.* летув. **talkà** ‘тс’. Падрабязна гл. СБ.

**ТАРПА́** ***можа быць н[а]пр[ыклад] сена, саломы, або бульбы.*** Станк [1152]: ‘скирда; прясло (скирда) хлебного или сенного стога в гумне; навес на столбах без стен, где складывают сено’, KSL: ‘kuča snapoū złožanaja radkami pry adnym miescy, kamlami navonki, a kałasami ū siaredzinu’; *параўн.* летув. **tar̃p** ‘між, паміж’, **tárpas** ‘прамежак’, PV: **tar̃pas**, **tarpùpėdis** ‘месца ў клуні складаць жыта; застаронак; сенавал’. Гл. таксама ПЗБ: тарпа I, СБ.

**ТУ́ЗГАЦЬ** ***цягаць, або цягнуць*****, ТУЗГАНУ́ЦЬ** ***пацягнуць.*** *Параўн.* летув. **tùzakoti** ‘тс’. У сувязі з фанэтыкаю слова гл. *пуцган*. Гл. таксама Фасм: тузить.

**ТУРА́Я** ***здаровая, дзябёлая жанчына, або дзяўчына.*** *Параўн.* летув. **tū̃ris** ‘аб’ём’, **tūrìngas** ‘аб’ёмны’, **tūrinìngas** ‘зьмястоўны’ < **turė́ti** ‘мець’.

**УЗШАНУ́ЦЦА** ***зьвярнуцца раптам, хутка.*** *Параўн.* летув. **šankùs** 'спрытны, увішны', **šankùmas** 'спрыт, увішнасць', **šankìnti** 'змушаць скакаць', **šankū̃nas** '(па)скакун', **šankū̃nė** '(па)скакуха'. Лексэма таксама зафіксаваная ў ПЗБ: **ушшануцца** 'усхадзіцца, раз'юшыцца, раззлавацца' (Вялейшчына). Ёсьць верагоднасьць, што беларуская форма рэпрэзэнтуе пачатнае фанэтычнае аблічча кораня – без **k**, які можа мець эпэнтычную прыроду. Гл. таксама СБ: адшунуць.